**Без песні — хоць трэсні!**

# РЭЧАНЬКА

*Беларуская народная песня*




Ой, рэчанька, рэчанька,
Чаму ж ты не поўная?
Люлі, люлі, люлі,
Чаму ж ты не поўная?

Чаму ж ты не поўная,
З беражком не роўная?
Люлі, люлі, люлі,
З беражком не роўная?

А як жа мне поўнай быць,
З беражкамі роўнай плыць?
Люлі, люлі, люлі,
З беражкамі роўнай плыць.

Янка коніка паіў,
Маня воду чэрпала.
Люлі, люлі, люлі,
Маня воду чэрпала.




# НІЎКА

## ЯК ЗАСНУЦЬ

Жанчына ўладкавала ў ложку дачушку, а сама прынялася за шыццё. Але не-не, дый перахоплівае позірк гарэзлівых вачанятак.

— Ты чаго не спіш?

— Не хачу.

— І што мне з табою рабіць?!

Некалькі хвілін дзяўчына ўважліва глядзіць на рукі маці, а потым і кажа:

— А ты зашый мне вочкі, тады і засну.

## АДКАЗАЎ

Нейк на ўроку настаўніца пытае Міколку:

— Калі ты ідзеш па вуліцы і бачыш прыгожы сад, а ў ім шмат груш і яблык, што ты думаеш пра таго гаспадара?

— Ці мае ён сабаку! — адказаў хлопчык.

## СМУТАК

— Сабачая пагода. Дождж і дождж. А мая жонка не ўзяла з сабою парасона.

— Дарма смуткуеш. Перачакае дождж у нейкім магазіне...

— Менавіта таму і смуткую...

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

У тэатры адзін глядач пахіліўся да другога і шэпча:

— Я вас не разумею. Толькі што вы шпурлялі ў гэтага акцёра гнілыя яблыкі, а цяпер выклікаеце яго на сцэну!

— Дык у мяне ў торбе выявілася яшчэ два яблыкі.

*

У джунглях Афрыкі адзін паляўнічы паспрачаўся з калегай:

— Іду ў заклад, што ўпалюю льва яшчэ да абеду. Стаўлю пяць тысяч франкаў.

Ён тут жа пайшоў па здабычу, але замест яго да палаткі праз паўгадзіны прыйшоў леў.

— Тут жыў гэты дурны Дзюран? — спытаў леў.

— Так.

— Яго ўдава вінавата вам пяць тысяч франкаў.

*

Маці да дачкі:

— Ці не сорам табе? Усе твае сяброўкі ўжо развяліся, а ты яшчэ не выходзіла замуж!




## ГУЛЯНКА

— Добра было на гулянцы?

— Не вельмі. Атрымаў два ўдары нажом, чатыры — дручком, а ў фантавай латарэі выйграў толькі салянку...

## ЗАДРЫПКОЎСКІЯ

— Чаму вы заўсёды сварыцеся з жонкай на вуліцы?

— Таму што дома мая жонка прагне спакою.

## З „Весніка Задрыпоніі"

### АПРАЎДАННЕ

„Напісанае мною апавяданне не можа быць плагіятам, бо за ўсё жыццё я не прачытаў ніводнага мастацкага твора.

Член літсуполкі „Гара"
А. Сідаркевіч."

### ДЫЛЕМА ДАЦЭНТОВІЧА

А якую санітарную функцыю выконваюць ваўкі ў авечай скуры?

Ён з гатоўнасцю працягне вам руку пасля таго, як падставіць нагу.

## НА ШАШЫ

Міліцыянер спыняе аўтамабіліста:

— Чаму вы ехалі з недазволенай хуткасцю?

— Бо тармазы сапсаваліся і я хацеў чым хутчэй даехаць дадому.

## НА ПЛЯЖЫ

Маладая дзяўчына, выходзячы з ракі, крычыць старэйшай жанчыне:

— Цёця, ну і халадэча ў рацэ!

— Пэўна, у такім скупым касцюме!



# МІНІВЕРШЫ

## ГНУТКІ

Не дапаможа у бядзе
Стыль кіраўніцтва гнуткі:
Аб працы, якасцях людзей
Мяркуе ён па чутках.

**Язэп Бяроста**

## АХВЯРА СЛУЖБОВАЙ ЛЕСВІЦЫ

Праціраў ён локці ў трэсце:
Дзе ні сядзе — не на месцы!
І вышэй яго нарэшце
Вырашаюць перавесці.
Там не локці ён, паверце,
А штаны ўжо мусіць церці.

**Яўген Міклашэўскі**



# Курёзы

## ПАЛЯВАННЕ НА МАТАЦЫКЛІСТА

Малады суднабудаўнік Сакольскай верфі (СССР) Е. Радзёнычаў прыцемкам вяртаўся на матацыкле з працы дадому ў вёску Юркіна. Раптам у яго над галавою пачуўся шум, у руку ўпіліся ўчэпістыя кіпцюры вялізнай птушкі. Ад нечаканасці матацыкліст выпусціў руль і ўпаў. У сутычцы, якая распачалася, перамог чалавек. Ён звязаў шалікам лапы птушкі і прывёз яе ў вёску. Выявілася, што на яго напаў арлан-белахвост, драпежнік, які занесены ў Чырвоную кнігу. Рост птушкі 87 сантыметраў, размах крылаў — два з паловай метра. Але гэтым разам птушку, відаць, зманіла светлая рука вадзіцеля матацыкла, якая хутка рухалася ў цемры, і яна прыняла руку за бягучага звярка.

## СЯРОД ВЯЛІКІХ

Свяшчэннік неяк заўважыў Вальтэру:

— Ці не памірыліся вы з Богам?

— Мы з ім кланяемся, але не размаўляем, — адказаў філосаф.




**Не лезь на ражон, бо ніхто не ведае, як з яго злезці.**